# ВЫБАР

ГАЗЕТА ДЭМАКРАТЫЧНЫХ ПЛЫНЯЎ ПРЫДЗВІНСКА- ПРЫДНЯПРОЎСКАГА КРАЮ

№ 8 (14) 15 красавіка 1992 г. Цана 40 кап.


## ЛІДЭРАЎ БНФ ВІТАЛІ АРШАНЦЫ

**Гэту сустрэчу меркавлася правесці ўжо даўно, але так складваліся абставіны, што яна двойчы пераносілася. І вось доўгачаканы прыезд адбыўся. Зала не змагла ўмясціць усіх, хто прыйшоў. У прэзідыуме—Старшыня БНФ, народны дэпутат рэспублікі Зянон Пазьняк, дэпутаты ад апазіцыі—Галіна Сямдзянава, Уладзімір Заблоцкі, Віктар Радамысльскі, намеснік старшыні Беларускага Згуртавання Вайскоўцаў падпалкоўнік Уладзімір Савянок.**

Галоўная ідэя, што праходзіла чырвонай стужкай праз усе выступленні дэпутатаў—неабходнасць правядзення усебеларускага рэферэндуму аб роспуску цяперашняга Вярхоўнага Савета рэспублікі і новых выбарах прафесійнага парламента. Лідэр Беларускага Народнага Фронту З. Пазьняк падрабязна ахарактарызаваў сённяшняе палітычнае і эканамічнае становішча, прычыны крызісу. Ён пераканаўча даказаў, што цяперашні Вярхоўны Савет не мае ўласнай канцэпцыі (ні эканамічнай, ні палітычнай) дзяржаўнага развіцця рэспублікі, і пляцецца з завязанымі вачыма ў хвасце падзей услед за Расіяй і Украінай. Чаму так атрымалася? На Беларусі змены ўлады не адбылося: большую частку сённяшняга вышэйшага заканадаўчага органа рэспублікі складаюць былыя партыйныя кіраўнікі, ветэранская эліта, старшыні калгасаў, выканкомаўскія начальнікі і г. д. Такім чынам, сёння намі кіруюць тыя ж самыя людзі, што яшчэ нядаўна вялі нас «к победе великих идей коммунизма».

Яны больш хвалююцца аб тым, каб утрымацца на сваіх мяккіх крэслах, жыццё ж сваіх выбаршчыкаў іх мала цікавіць. Іх рукамі створана напалову планавая, напалову рынкавая эканоміка, якая дае магчымасць некаторым кіруючым асобам атрымліваць вялікія даходы, нічога не робячы, перапампоўваючы ўласнасць дзяржавы ў асабістую. Не забыўся пра інтарэсы роднай наменклатуры і Савет Міністраў, выдаўшы надзаконныя акты аб дзікай прыватызацыі, альбо, як яшчэ ахрысцілі гэты працэс у народзе,—«прыхватызацыі». Але, бадай, самае страшнае, што беларуская наменклатура ў адрозненне ад расійскай і украінскай не праводзіць дзяржаўнай палітыкі ў карысць беларускага народу. Інакш як растлумачыць падпісанне С. Шушкевічам пагаднення аб бясплатным транзіце праз Беларусь?

З. Пазьняк падкрэсліў, што далейшае існаванне такога Вярхоўнага Савета і ўрада небяспечнае для рэспублікі і неабходна змена ўлады канстытуцыйным шляхам рэферэндуму. Гэтая ж думка аргументавана прагучала ў выступленнях Г. Сямдзянавай і У. Заблоцкага.

Апошняе, на што звярнуў увагу Старшыня БНФ, ніякія самыя лепшыя рэформы не дадуць вынікаў, пакуль грамадства не адродзіцца духоўна, не адчуе сябе адзінай скансалідаванай нацыяй, за плячамі якой стагоддзі багатай гісторыі, пакуль кожны чалавек не будзе адчуваць побач плячо другога.

Госці падрабязна адказалі на шматлікія пытанні, большасць з якіх была самага сур'ёзнага характару. Было і некалькі яўна правакацыйных, аднак нічога, акрамя смеху ў зале, яны не выклікалі. Панавала лагодная атмасфера, таму не дзіўна, што сустрэча доўжылася амаль пяць гадзін. Але і пасля яе заканчэння людзі яшчэ доўга не разыходзіліся, адчуваючы патрэбу падзяліцца паміж сабой прыемнымі ўражаннямі.

**Алесь ШУТАЎ,**



**На здымку**: Зянон Пазьняк у Оршы.

Фота **Ф. Быкава.**

## Докшыцы прачынаюцца,
### або Пра тое, як заклік прамоўцы «Няхай жыве КПСС» вызваў дружны рогат на плошчы

Мяняецца жыццё, мяняюцца і людзі. Нездарма, амаль нядзелю многія жыхары Докшыц чакалі мітынгу ў падтрымку рэферэндума. Больш за ўсё, чамусьці, хвалявалася раённае начальства. Не жарты: з'явілася мясцовая суполка БНФ! Напярэдадні былі аб'явы аб месцы і часе правядзення мітынгу. І ў назначаны час на гарадскі стадыён пацягнуліся людзі. Не гледзячы на мглісты дождж, яны ішлі больш спора, чым на першамайскую дэманстрацыю, куды, як вядома, ішлі прымусова.

І сабралася людзей не менш, чым у часы іх вываду на плошчы. На мітынгу выступілі члены мясцовай суполкі БНФ, прадстаўнікі з Мінска. Гаварылі аб мясцовых справах, недахопах. Не абышлося і без плюралізма. Былы ваенком спрабаваў агітаваць за Савецкі Саюз. Слухалі яго са смехам. А яго заклік «Няхай жыве КПСС» вызваў дружны рогат.

Пасля мітынгу пачаўся збор подпісаў у падтрымку правядзення рэферэндума.

**І. ФУРСЕВІЧ.**

✦ *Слова з крыжа маўчання*

## «НА МЯНЕ НАКЛАЛІ ЛІМІТ...»




**Звяртаецца да вас механізатар калгаса «Праўда» Дубровенскага раёна Гудына Генадзь Анатольевіч. Працую механізатарам з 1976 года, але такіх цудаў яшчэ не бачыў, як у 1991 і 1992 гадах. Думаў абыйдзецца, а выйшла ўсё наадварот. За час работы ў калгасе я ніколі не быў пакараны, быў заўсёды наперадзе, быў пераможцам у 1985 годзе па ўборцы сіласных, узнагародзілі пуцёўкай у Балгарыю, 5 гадоў мой партрэт вісеў на Дошцы гонару ў Віцебску. Мне ніколі не было сорамна за свае рукі і працу.**

**Але што здарылася цяпер—гэта страшна. Мяне абвінавачваюць і нават пакаралі за маю работу. Ніколі не быў у водпуску за ўсе гады, нават не быў на вяселлі роднай сястры толькі таму, што сумленна працаваў, і мяне разумелі. У водпуск не хочуць адпускаць, ставяць умовы. Але калі я сумленна адпрацаваў за 1991 год 365 дзён, я, напэўна, заслужыў водпуск. І ў 1992 годзе адпрацаваў 60 дзён. Усе нашы механізатары выкарыстоўваюць водпуск, а я не магу.**

**Я не злодзей, не п'яніца, я просты працаўнік-калгаснік. І за мяне няма каму замовіць слова! Калі б вы ведалі, як цяжка працаваць, калі цябе топяць тварам у гразь. Восенню я падышоў да эканамістаў (іх у нашай бухгалтэрыі—3 чалавекі) і сказаў, каб яны вызначылі мне норму на ўборцы кукурузы, але яны мне зрабілі норму са столі. Я працую на камбайне ўжо 7 гадоў, і нормы павінны даводзіцца правільныя. Калі быў зусім новы камбайн, норма была 120 тон. Я нарыхтоўваў заўсёды многа. Толькі за 1985 год я сваёй працай, потам нарыхтаваў 300 тысяч тон. Але цяпер на новы камбайн норма 64 тоны, а мне на мой стары—82 тоны. Адкуль бяруцца такія нормы, калі нашы эканамісты ніколі не былі на рабочым месцы механізатараў. Усё робіцца назло. Можа, гэта і ўсюды так! Дапамажыце мне адшукаць праўдзівасць у нарміраванні, тады я пайду на рамонт камбайна.**

**Чаму ніхто не пакараў эканамістаў, што яны нічога не робяць! Можа я дзе і не маю рацыі, але, паверце, больш не магу. Усё сваё жыццё я маўчаў, але цяпер не магу змаўчаць, таму што да мяне аднесліся, як да п'яніцы, які не хоча працаваць.**

**Я ўсю зіму адпрацаваў у жывёлагадоўлі, мяне і тут ашукалі. Што можна далей рабіць, толькі ісці ў лес і накінуць вяроўку на шыю. Хто мяне абароніць—ніхто. Мне проста крыўдна за свае рукі, што ім няма адпачынку. Вось і цяпер набліжаецца пасяўная, трэба ісці і працаваць з ранку да позняга вечара. Гэтага ніхто не разумее, што я працую ўвесь дзень. І зноў ашуканства, і зноў крыкі. Трэба нешта патрабаваць, дабівацца праўды. Колькі разоў звярталіся ў Дуброўна, але там заўсёды абараняюць галоўных спецыялістаў, але не працаўніка-калгасніка. Адразу прыходзяць разбірацца не да земляроба, а да галоўных. Чаму так робяць—невядома. Дапамажыце адшукаць праўду і мае законныя грошы.**

**Больш так не магу жыць і працаваць, проста трэба адысці ад усяго гэтага. Усё можна зрабіць, але толькі шкада дзяцей, якім заўсёды патрэбны бацька. Я вас вельмі прашу прыехаць і адшукаць мае законныя грошы і водпуск. Можа, тады будзе праўда і для нашага калгаса, і для мяне. Бо час ідзе і не хочацца больш жыць і слухаць гэтыя нараканні. Можа тады не будуць мне помсціць.**

**За два гады, калі давалі талоны на абутак, я атрымаў толькі адны туфлі ў 1990 годзе. Іх цяпер ужо няма, лопнулі ад саляркі. Я не магу нічога атрымаць па спісу, на мяне наклалі ліміт. У 1990 годзе я атрымаў у дом кухню, у 1991 годзе ў сакавіку—дыван памерам 2×3 метры. У верасні спальню мне ўжо не далі, палічылі, што занадта многа я набраў. Камісія аддала шафёру, які атрымаў тэлевізар, сценку і спальню. Ці ж гэта правільна! Усім трэба жыць, і мне таксама, але больш я так не магу. За работу ў 1991 годзе мне далі чэк на 5 рублёў 28 капеек, сабе забралі спецыялісты па дзве рэчы. Чаму так абышліся са мной, я не ведаю. І яшчэ аднаму механізатару далі чэк за 5 рублёў 28 капеек. Вось які каштоўны падарунак.**

**Г. ГУДЫНА,**
**механізатар.**

# У бядзе той, хто адводзіў бяду




**На здымку:** удзельнікі абласнога ўстаноўчага сходу інвалідаў Чарнобыля...

У канцы мінулага тыдня ў зале пасяджэнняў дырэкцыі пасажырскіх перавозак Віцебскага аддзялення чыгункі адбыўся абласны ўстаноўчы сход інвалідаў Чарнобыля. На яго прыехала некалькі чалавек, астатнія не змаглі прысутнічаць у сілу аб'ектыўных прычын. Яны пазвалілі члену Рэспубліканскага Савета аб'яднання інвалідаў Чарнобыля С. Іконнікаву і папрасілі лічыць іх прысутнымі на сходзе.

Цяжка сказаць, ці вырашыць абласная суполка, створаная на сходзе, усе праблемы, якія абрынуліся на інвалідаў-чарнобыльцаў. Гэтыя людзі, як ніякая іншая катэгорыя, патрабуюць з боку ўладу маючых павышанай увагі. Але рэальнасць дня такая, што інваліды-чарнобыльцы не маюць сёння нават неабходнага мінімуму: немагчыма купіць лекі, чыстыя прадукты харчавання, палепшыць жыллёвыя ўмовы.

Інвалід з Шаркаўшчыны І. І. Авінаў, напрыклад, з гарыччу і болем расказваў, што не можа атрымаць кватэру большага памеру, як прадугледжана заканадаўствам. Мясцовыя ўлады, спасылаючыся на рознага роду прычыны, адмаўляюць яму ў гэтым. Дзікія, абсурдныя факты прыводзілі ў сваіх выступленнях інваліды І. В. Снегіроў, М. І. Суленка, іншыя: хаджэнне па інстанцыях у пошуках справядлівых адносін да сябе вымотвае нервы, пазбаўляе надзеі на атрыманне кваліфікаванай медыцынскай дапамогі.

Не ўнёс практычна яснасці і спецыяліст па праблемах ліквідацыі вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС аблвыканкома В. П. Лакамы, які выступіў з інфармацыяй на сходзе. Ен, па-сутнасці, гаварыў аб тым, што вядома ўсім: агульнай праграмы дапамогі чарнобыльцам няма, абласны бюджэт ледзь зводзіць канцы з канцамі.

Такое вызначэнне наўрад ці можна прыняць. У вобласці ўсяго 23 чалавекі інвалідычарнобыльцы, якія аддалі здароўе і сілу, адводзячы ад нас бяду. Яны маюць поўнае права разлічваць на дапамогу дзяржавы.

На сходзе падкрэслівалася думка: неабходна стварыць камерцыйныя структуры, якія рэальна б дапамаглі інвалідам. Патрэбны і пэўны каардынацыйны цэнтр на ўзроўні аблвыканкома. У час эканамічнага хаосу, палітычнай нестабільнасці інвалідам цяжка як нікому.

Няўжо і іх сход ніхто не заўважыць?

*Подготовка к референдуму*

## ПЕРВЫЙ ЭТАП ПРОЙДЕН

В минувший понедельник завершился двухмесячный марафон в республике по сбору подписей граждан в поддержку проведения референдума по вопросу роспуска Верховного Совета и отставки правительства.

1200 членов зарегистрированной инициативной группы, преодолевая препятствия властных структур, смогли выполнить поставленную задачу.

Нелегко пришлось членам инициативной группы в городе Витебске. Небольшой по численности, ей пришлось столкнуться с оскорблениями в свой адрес со стороны отдельных граждан. Ведь как правило сбор подписей шел по месту жительства горожан. К одному из членов инициативной группы было даже применено физическое насилие. На первом этапе сбора подписей некоторые исполкомовские чиновники отказывались визировать гербовой печатью подписанные листы. Кроме этого не следует забывать, что если Белоруссия считалась коммунистической Вандеей бывшего Советского Союза, то центр этой Вандеи в республике неуклонно перемещается в наш город. Достаточно нам вспомнить Витебскую сходку депутатов-союзников или скандальные пассажи премьера Кебича.

Однако, несмотря на искусственно возводимые барьеры, городской инициативной группе удалось собрать 15 с половиной тысяч подписей.

По предварительным данным на территории республики собрано 440 тысяч подписей граждан, что значительно превышает требуемое количество, обусловленное законом (350 тысяч).

13 апреля собранное количество подписей было передано в Центральную комиссию по референдуму. Последнее слово за народными депутатами.

**Х. БОРИСОВ.**

*Яўген НОВІКАЎ:*

# «Мы маем справу з класічнай карупцыяй на ўзроўні першых асоб»

**Наш карэспандэнт Яўгенія Мальчэўская сустрэлася з народным дэпутатам Рэспублікі Беларусь, адказным сакратаром Камісіі па заканадаўству Яўгенам Віктаравічам Новікавым, які адказаў на пытанні, звязаныя з прыватызацыяй дзяржаўнага страхавога фонду.**

**—Яўген Віктаравіч, мяне цікавіць, як склалася справа з прыватызацыяй дзяржаўнага страхавога фонду, якую ролю ў гэтым адыгрывае наш беларускі Саўмін!**

—За больш чым 70 год дзяржава цяжка ці лёгка, але ўсё ж стварыла страхавы фонд. Ён быў сабраны як з асабістых адлічэнняў грамадзян, так і з прадпрыемстваў і калгасаў. Было абавязковае страхаванне, было і добраахвотнае. Так скапілася некалькі мільярдаў грошай, часткова яны выплачваліся ў патрэбных сітуацыях, гэта значыць, калі быў неўраджай, пажар ці яшчэ што-небудзь. Аднак, заставалася вялікая частка, якая нікуды не рухалася. З'явілася добрая думка запусціць гэтыя грошы ў абарот. Сапраўды, чаго будуць ляжаць некалькі мільярдаў?

**—Значыць, Саўмін знайшоў шляхі для найлепшага прымянення гэтых грошай!**

—Калі пачала добрая думка рэалізоўвацца, то знайшлі такія хады, што гэта думка абярнулася супроць дзяржавы. У дадзеным выпадку справа ідзе аб дзвюх Пастановах Савета Міністраў: **№ 394** ад 24 кастрычніка 1991 года і Пастановы **№ 399** ад 31 кастрычніка 1991 года. Гэтымі Пастановамі практычна прыняты меры, якія накіраваны супраць эканамічнага суверэнітэту Рэспублікі Беларусь, на падрыў дзяржаўнасці.

**—У чым жа сэнс!**

—Сэнс у тым, я аб гэтым гаварыў і па тэлебачанні, і на сесіі Вярхоўнага Савета, што ў Пастанове № 399 (як і папярэдняя, падпісана першымі асобамі Кебічам і Мясніковічам) у п. 8 ч. II запісана: прыбытак, які застаецца ў Белдзяржстраху пасля ўплаты падаткаў, з'яўляецца яго ўласнасцю. Але да гэтага Пастановай № 394 Белдзяржстрах быў рэфармаваны ў Беларускую дзяржаўную камерцыйную арганізацыю.

**—Хто зрабіў гэта рэфармаванне!**

—Яго рэфармаваў Савет Міністраў. Выходзіць, што сённяшні Белдзяржстрах—гэта ўжо не Белдзяржстрах, які быў 70 гадоў. Калі ўзнялі аб гэтым пытанне, то міністр фінансаў Янчук зрабіў выгляд, што гэта мабыць дзяржгасразліковая арганізацыя. Але ж міністр не можа не ведаць, што дзяржгасразліковая арганізацыя шмат у чым адрозніваецца ад камерцыйнай арганізацыі.

Сённяшні Белдзяржстрах ужо камерцыйны, хоць узначальвае яго той жа Стасюк. Але хай ён будзе камерцыйны, няхай адкрывае малыя прадпрыемствы, дае грошы ў крэдыт пад працэнты, хай яны выдаюцца грамадзянам... Але ж у тым жа пункце 8 частка II Пастановы № 399 запісана, што ўвесь прыбытак з'яўляецца яго ўласнасцю. Заўважце, усёй дзяржавай збіралі грашовы фонд, і калі грошы пайшлі ў абарот, то прыбытак цяпер ідзе ўжо не ў дзяржаву, а ва ўласную маёмасць людзей, якія кіруюць гэтым Белдзяржстрахам. А прыбытак гэты павінен быць уласнасцю дзяржавы.

Можна было пайсці па другому шляху: усіх удзельнікаў, хто ўносіў грошы ў Белдзяржстрах, зрабіць акцыянерамі, і прапарцыянальна таму, хто колькі ўнёс, выдаць акцыі на прыбытак. Але гэта не зроблена. Фактычна прыватызацыя праведзена вузкім колам асоб у іх інтарэсах. Гэта ў першую чаргу—кіраўніцтва. Я думаю, што не можа быць, каб першыя асобы, якія падпісвалі вышэйназваныя Пастановы, не ведалі, што яны робяць. Дзяржава ад гэтага страчвае велізарныя сумы.

Але ж кіраўнікі пайшлі далей. Сёння вядома, што на гэтыя грошы Беларуская дзяржаўная камерцыйная арганізацыя адкрыла малыя прадпрыемствы, дала крэдыты пад будаўніцтва і ў прыватны сектар асабліва. Кіраўніцтва дало грошы камерцыйным банкам пад працэнты. Але дзяржаўныя грошы, нашы агульныя, працуюць ужо не на дзяржаву, бо прыбытак ідзе вузкаму колу асоб, якія пачынаюць разважаць па-свойму лагічна: калі грошы запушчаны, ім трэба, па-першае, адвязацца ад тых, хто прыняў удзел у фарміраванні фонда. І гэта робіцца праз скасаванне дагавору, каб ніхто не прэтэндаваў на частку прыбытку. Такія сігналы ўжо ёсць.

Па-другое, трэба пазбавіцца ад тых, хто з імі працаваў у раёнах, абласцях, значыць, інспектараў-агентаў дзяржстраху. Таму што, як члены калектыву, яны могуць таксама прэтэндаваць на частку прыбытку. Таму зараз пачынаецца кампанія па пераводу гэтых інспектараў на кантрактную аснову, бо лягчэй, у выпадку, ад іх пазбавіцца. Так звужаецца кола асоб, якія прэтэндуюць на прыбытак.

Ідзе і трэці захад: пачынае рыхтавацца і ўжо рыхтуецца даўно грамадская думка, што Белдзяржстрах з'яўляецца банкрутам, што супрацоўнікам ужо быццам няма чым плаціць зарплату. Як гэта так, калі паўкладаны грошы ва ўсе камерцыйныя структуры і цяпер высвятляецца, што няма грошай. Але ж прыбытак ужо пайшоў, і гэтае вузкае кола выдатна жывеаднымі працэнтамі. У нас ёсць матэрыялы па злоўжываннях гэтых хлопцаў...

**—Хто яны!**

—Гэта Стасюк асабіста і яго паплечнікі, якія давалі грошы асобным камерцыйным банкам пад больш нізкі працэнт, а затое, за кожны там мільён, які даецца пад больш нізкую стаўку, ім адлічалася адна легкавая машына. І так не адна, якія яны потым паміж сабой раздзяляюць.

**—А які ва ўсім гэтым удзел праваахоўных органаў!**

—З гэтай прычыны я зрабіў запыт (тут трэба высокія эканамічныя веды) на імя Генеральнага пракурора Рэспублікі, акрамя гэтага на імя старшыні Дзяржаўнага камітэта бяспекі аб тым, што ў дадзеным выпадку ідзе пагроза эканамічнаму суверэнітэту Рэспублікі на ўзроўні першых асоб. Практычна за падпісанне Пастаноў Кебіч і Мясніковіч павінны прадстаць перад судом, прычым прадстаць не за злоўжыванні і не за халатнасць у адносінах да сваіх функцыянальных абавязкаў, а яны павінны прадстаць па факту абвінавачвання ў антыдзяржаўнай дзейнасці.

На сесіі Вярхоўнага Савета, маючы адпаведныя матэрыялы на руках, я ўнёс у павестку дня ад імя апазіцыі пытанне **аб утварэнні часовай камісіі па расследаванню дзеянняў службовых асоб, звязаных з прыватызацыяй дзяржаўнага страхавога фонду.** Там я сказаў, што і Мясніковіч, і Кебіч павінны прадстаць перад судом.

Потым і Мясніковіч, і Кебіч да мяне падышлі і сказалі, нібы я іх назваў дзяржаўнымі злачынцамі. Я іх так не называў, бо так іх можа назваць толькі суд. Я паўтарыў, што яны павінны прадстаць перад судом, пакольні, ставячы свае подпісы, абодва не маглі не ведаць, што робяць.

Ужо зараз на ўзроўні пракуратуры Рэспублікі вядзецца даследаванне, і, мабыць, на ўзроўні КДБ. Колькі гэта будзе працягвацца, не ведаю. Таму трэба і дэпутацкі ўдзел.

Кебіч і Мясніковіч прапанавалі мне і вельмі настойвалі, каб я пагадзіўся на неўтварэнне часовай дэпутацкай камісіі, каб згадзіўся на даследаванні на ўзроўні пракуратуры.

**—Хоць і зразумела чаму, але чаму толькі на ўзроўні пракуратуры!**

—Я зразумеў усе гульні. Пракуратура наскрозь у сувязях. Але, калі машына пачала круціцца, нельга спыняцца. Нам неабходна ўтварыць камісію, бо мы, гэта ўяўна, маем справу з класічнай карупцыяй на ўзроўні першых асоб выканаўчай улады, якія, пры доказанні, павінны прадстаць перад судом не за агульнакрымінальную, а за антыдзяржаўную дзейнасць. Дэпутаты пагадзіліся са мной, і зараз гэтае пытанне ўключана ў павестку дня. Нельга пакінуць без належнай ацэнкі дзейнасць кіраўнікоў дзяржавы, якія падпісвалі паперы, накіраваныя на падрыў сваёй дзяржавы. Такія дзеячы не маюць права займацца дзяржаўнай дзейнасцю.

*Віншаванне з Аўстраліі*



**BIELARUSKAJA NARODNAJA RESPUBLIKA**
**ПРЭЗЫДЭНТ**
**БЕЛАРУСКАЙ ЦЭНТРАЛЬНАЙ РАДЫ**

Дарагія Суродзічы на Бацькаўшчыне і на Эміграцыі!

З вялікай радасьцяй ў сэрцы вітаю Вас з 74–мі Угодкамі Абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі Актам 25–га Сакавіка, 1918г.

Акт 25–га Сакавіка, пасьля стагодзьдзяў няволі, агарнуў надзеяй Беларускі народ на свабоду і сьветлую будучыню. Аднак прагавіты імпэрыялізм бальшавіцкай Масквы сурагатам БССР і крывадушнай дзейнасьцяй юрыдычна пахіснуў Акт 25–га Сакавіка і зьневажыў жаданьне Беларускага народа быць вольным і незалежным, налажыўшы на яго цяжкое акупацыйнае ярмо ды старанна вынішчаў усё нацыянальнае, беларускае прыгожае і жудасна зьнішчая мілёны беларусаў.

Ня гледзя на жорсткі тэрор бальшавікоў, беларускі народ не заламаўся духова і не страціў любві і жаданьня быць вольным і незалежным. Ён цьвёрда верыў што яшчэ прыйдзе час калі ён скіне з сябе сілай накінутае яму ярмо ды скажа перад сьветам праўду аб сабе і бязупынна вёў барацьбу за ажыцьцяўленьне гэтай ідэі.

Нагода заявіць усяму сьвету пра сваё жаданьне быць незалежным, была часткова зрэалізаванай ў Чэрвені 1944г. калі, вуснамі 1039–ці дэлегатаў на адумыслова скліканым 2–м Усебеларускім Кангрэсе ў Менску, Беларускі народ афіцыйна і юрыдычна анулюваў усе пастановы ворагаў якія адносіліся да Беларусі, аднагалосна затвердзіў Абвешчаньне Незалежнасьці Беларусі Актам 25–га Сакавіка, 1918г. і выбраў сваё нацыянальнае прадстаўніцтва – Беларускую Цэнтральную Раду, для прадаўжэньня змаганьня за вызваленьне.

Гэтае вызвольнае змаганьне Беларускіх патрыётаў на Бацькаўшчыне і на Эміграцыі ўжо цяпер падыходзіць да поўнага і заслужанага посьпеху і пад націскам дэмакратычных сіл, ачольваных Беларускім Народным Фронтам, Беларускі Парлямэнт, на сваім паседжаньні 25–га Жніўня, 1991г. Канстытуцыйна замацаваў Сувэрэнітэт Беларусі і 19–га Верасьня, зошлага году затвердзіў гістарычную сымволіку Беларусі, Бел–Чырвона–Белага сьцяга і Гэрба "Пагоня", скінуў накінуты ворагам назоў БССР і абвясьціў нашую беларускую радзіму – Рэспублікай Беларусь!

Віншую Вас з гэтымі вялікімі гістарычнымі асягненьнямі і жадаю Вам плённай працы ў будове сьветлай і прыгожай будучыні Беларускаму Народу!

Няхай Жыве Еднасьць і Спаўпраца паміж усімі Беларусамі!

Жыве Беларусь!!!



В. Цярпіцкі
Сакратар

М. Зуй
Прэзыдэнт

# Есть ли совесть у начальников?

14 марта во дворце Энергетиков г. Новолукомля проходила встреча, на которой присутствовали полномочные представители большинства тепловых станций.

На встрече рассматривался вопрос социальной и правовой защиты работников энергетики. Инициативу ее проведения выдвинула парторганизация ОДПБ г. Новолукомля после консультации с работниками других ТЭЦ, которые раньше принимали участие в московском совещании.

Председатель профкома Лукомльской ГРЭС М. Бондарь вначале поддержал идею этой встречи, но под давлением сверху изменил свою позицию на 180 градусов. Но встреча состоялась. Тов. Г. Борисик вопреки фактам пытался выдать ее проведение как инициативу профкомитетов. Вот уж поистине редкая способность к перевоплощению.

Одним из важнейших вопросов стало рассмотрение оплаты труда по двадцатидвухразрядовой сетке, разработанной чиновниками госкомтруда РБ в интересах начальников всех рангов от предприятий до министерств.

Выяснилась любопытная вещь: чем выше ступень, тем больше растут коэффициенты и все больше разрыв в зарплате между рабочими и начальниками. Это и стало главной причиной, что вызвало взрыв негодования коллективов. Ну а профкомитеты как всегда остались в стороне, их не сочли нужным даже поставить в известность. У нас на ГРЭС, когда у директора обсуждался этот вопрос, даже не пригласили зампредпрофкома Д. Новикова. Не случайно бывший председатель профкома Оршанской ТЭЦ в знак протеста против этой вопиющей несправедливости по оплате труда работников заявил: «профком распустится и не будет работать, пока не будут удовлетворены их требования».

Скрыли руководители от людей указания ТЭО Беларусьэнерго о том, что рабочим устанавливаются оклады по верхней вилке, все делалось, видимо, для того, чтобы побольше урвать себе. Так и хочется спросить: есть ли у этих людей совесть? Видимо, все они ее потеряли. Так может трудовым коллективам подобрать других, которые ее еще имеют?

Все выступающие подвергли резкой критике сложившееся положение и угодничество позиции большинства профсоюзных работников, стоящих в стороне от забот простых людей.

Встреча оказалась полезной, были разработаны конкретные меры по социальной и правовой защите работников энергетики и намечено проведение съезда энергетиков в этом году.

**А. ЛИШИН,**
член ОДПБ г. Новолукомля.

## «Да ўвагі камуністаў»

На сённяшні дзень заснавальнікамі Дубровенскай грамадска-палітычнай газеты з'яўляюцца райсавет народных дэпутатаў і працоўны калектыў рэдакцыі. Тым не менш, камуністы лічаць яе сваёй трыбунай. Аб гэтым яскрава сведчыць аб'ява на першай старонцы пад назвай «Да ўвагі камуністаў Дубровеншчыны», у якой аргкамітэт па стварэнню раённай арганізацыі партыі камуністаў (ПКБ) заклікаў прайсці перарэгістрацыю па адрасу: г. Дуброўна, вул. Нікандравай, 31 (ПТВ № 171) з 16 да 20 гадзін штодзённа, акрамя нядзелі. Пры сабе трэба было мець партбілет.

Вось так. Зноў жа ў рабочыя дні і зноў з тым жа партбілетам. Аднак, як ужо вядома, для Міністэрства юстыцыі гэты самы партбілет стаў прычынай адмовы ў рэгістрацыі.

# В. КЕБІЧ—ПРАДАЎЖАЛЬНІК СПРАЎ ГКЧП ?

**«Канфедэрацыя працы Беларусі супраць наменклатурна-мафіёзнай прыватызацыі»,**— так называецца невялікая брашурка старшыні яе выканкома Міхаіла Собаля. У брашуры зроблены абгрунтаванне незаконнасці прыватызацыі, аналіз прысвоення дзяржмаёмасці, прагноз на бліжэйшае будучае, прававыя абгрунтаванні для калектыўнай абароны, практычныя рэкамендацыі.

Брашура адкрываецца са звароту да Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь, Старшыні КДБ Рэспублікі Беларусь. У звароце даецца тлумачэнне з просьбай далучыць яго да заявы, ужо перададзенай вышэй названым асобам 20 снежня 1991 года. У гэтай заяве, якая з'яўляецца патрабаваннем аб узбуджэнні крымінальнай справы супраць В. Ф. Кебіча, сцвярджалася, што «ўвёўшы ў дзеянне Часовы парадак раздзяржаўлення эканомікі і прыватызацыі дзяржаўнай уласнасці, Савет Міністраў рэспублікі здзейсніў антыканстытуцыйны пераварот, паколькі вывеў з-пад кантролю грамадзянскага заканадаўства саму аснову грамадзянскіх адносін—уласнасць. Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь прысвоіў заканадаўчыя функцыі і перадаў іх кіраўнікам розных дзяржструктур, працягваючы практычна справу ГКЧП.

Змяненне маёмасных адносін (прыватызацыя) павінна, пішацца далей, праходзіць або шляхам насілля або шляхам рэформ. Рэформы немагчымы без выканання двух умоў: І. Працэдура перадачы дзяржаўнай маёмасці ў прыватныя рукі павінна быць вядома грамадзянам, узгоднена з імі і рэгламентавана законам. 2. Кантроль за выкананнем гэтага закона павінен ажыццяўляцца дзяржавай і грамадзянамі (грамадскімі арганізацыямі). У любым выпадку вышэйшы дзяржаўны орган перад пачаткам прыватызацыі абавязан зрабіць наступнае: «Устанавіць, што правадзіць прыватызацыю дзяржаўных прадпрыемстваў, устаноў ці другой дзяржаўнай маёмасці, а таксама накопліваць грашовыя сродкі ад насельніцтва іншым спосабам, чым гэта ўстаноўлена сапраўдным законам, забараняецца».

Аднак у Беларусі Вярхоўны Савет не спяшаўся прымаць Закон аб прыватызацыі, а дазволіў яго ажыццявіць метадам адміністрацыйнага захопу. Службовым асобам прадаставілі магчымасць паэтапна праводзіць сябе ва ўласнікі. Таму ў адносінах, якія кіруюцца законамі, пануе бязмежжа. Пракуратура ў лепшым выпадку здольна зафіксаваць мноства частковых парушэнняў многіх асобных законаў, чым сама сябе і блакіруе. З-за адсутнасці менавіта закона, які рэгулюе працэдуру прыватызацыі, уся праваахоўная сістэма паралізавана. Кіруючыя асобы карыстаюцца незаконным распараджэннем, паколькі не вызначаны сам крытэрый законнасці на пераходны перыяд.

Далей брашура (выдадзена 24 лютага 1992 г.) у спецыяльных раздзелах расказвае аб прававой базе Канфедэрацыі працы Беларусі, робіць абгрунтаванне таго, што надзвычайная эканамічная сітуацыя створана адміністрацыйным шляхам свядома і праднамерана, што прымяненне ваенна-адміністрацыйных мер спланавана ўрадам загадзя. Усё ад таго, што Вярхоўны Савет і Саўмін знаходзяцца ў руках аднаго клана і кіруюцца адным мазгавым цэнтрам.

В. Кебіч мог бы ва ўльтыматыўнай форме, ушчыльную да адстаўкі ўрада, патрабаваць ад заканадаўцы прыняцця Закона аб прыватызацыі, чым зняў бы з сябе падазрэнні і атрымаў бы крэдыт даверу. А паколькі ён гэтага не зрабіў, значыць урад намераны дзейнічаць без даверу, гэта значыць, сілай, і збегчы ў крытычны момант. Пакуль жа ім рэалізуецца ўпаўне канкрэтная і добра прадуманая мадэль, напоўненая цынізму і фашысцкага чалавеканенавісніцтва.

**Вера АДРАЖЭНСКАЯ.**

(па матэрыялах брашуры Канфедэрацыі працы Беларусі).

*Резонанс*

# Чей образ насаждает М. Тарасевич

*В №№ 10, 11 «ВК» прочитал статью некоей М. Тарасевич «Кто мы и откуда?». А поскольку помещена она в рубрике «Мнение», то и решил высказаться.*

*Уважаемая М. Тарасевич, как много нового для себя и необычного с точки зрения истории я почерпнул из Вашего «мнения». Например, с большим удивлением узнал, что белорусская нация — «химера», и потому только, что, как Вы пишите, «...Западная Русь или Белая Русь, но все равно Русь».*

Во избежание недоразумений признаюсь: по национальности я русский, прожил на земле Беларуси почти двенадцать (с перерывами) лет. И никогда не чувствовал себя здесь человеком второго сорта. А познакомился с Вашим сочинением — и стало страшно. Страшно оттого, что в открытую подают голос определенные силы общества, которые заинтересованы в разжигании национальной вражды в Беларуси (иначе Ваши рассуждения воспринимать не могу). Уважаемая «внучка крестьян Полотчины», чего Вы добиваетесь? Чтобы завтра, выйдя из квартиры, я ловил на себе косые взгляды, а послезавтра, получив статус беженца, обивал пороги московских вокзалов?

Ни для кого не секрет: Беларусь — один из самых стабильных регионов страны. Русские и представители иных национальностей здесь не так ущемлены, как, например, белорусы в России (назовите хотя бы одну белорусскую школу или белорусскую кафедру в каком-либо московском ВУЗе).

В своей краткой автобиографии Вы указали, что в КПСС не состояли. Но какие узнаваемые нотки, набившие в последнее время оскомину, звучат в Вашем кратком экскурсе по истории Белоруссии. Читаем в учебнике «История СССР»: «Царизм жестокими военными мерами боролся в восставшей Польшей... Был захвачен в плен и в июне 1869 г. повешен З. Сераковский, погибли А. Потебня, К. Калиновский и другие польские, русские, литовские деятели восстания.» А о том, что К. Калиновский был белорусским деятелем — ни слова. О восстании 1863 г. в крае сказано так: «польское восстание». Русифицированный образ белорусского прошлого создавался на протяжении десятилетий усилиями вульгарных партийных историков. Этот образ насаждался в белорусских школах с помощью учебника «История БССР». Уж не претендуете ли Вы на роль автора «Краткого курса истории Белоруссии» в партийном понимании? Или еще: «Что такое белорусы? Это русские. Кто это придумал, когда? Белые русские, красные русские, синие русские... Это все сделано искусственно... Никто не хочет изучать другой язык — нормальный, хороший — русский язык... Тут вдруг выдумали вводить пятьдесят языков! Это все от сумасбродства. Это болезнь. Это национальный психоз». Это — В. Жириновский. Какое поразительное сходство с Вашими рассуждениями, уважаемая М. Тарасевич!

От Москвы до самых до окраин... Как долго мы верили в монолитность шестой части земного шара... Сегодня национальные распри обратно пропорциональны призрачной дружбе народов прошлых десятилетий. И только осознав пагубность шовинистического высокомерия, преодолев заблуждения национальной исключительности, трезво разобравшись в исторических несправедливостях — как действительных, так и мнимых, — мы придем к подлинному взаимоуважению народов, признанию национального достоинства друг друга, к миру и согласию. Как раз желания это сделать в рассуждениях М. Тарасевич я и не нашел.

**С. КОЧЕТОВ,**
**г. Витебск.**

*Эхо Манежной площади*

# Самозванцы из Беларуси

Побывал я ради любопытства 17 марта на Манежной площади в Москве. Специально поехал. Удивился потом вранью некоторых. Собралось 50 тысяч митингующих, а заявили, что было полмиллиона.

Прокричали на весь бывший Союз, что собралось «Всенародное вече», а какой это был народ, я убедился, в основном — бывшие партаппаратчики, местные и приезжие. Время на них поставило точку, терять власть ой как им не хочется, вот и валяли комедию. А москвичи на Манежную площадь и не пришли.

Встретил на этом «вече» и двух земляков из Витебска. Фамилий они, правда, не назвали. Но один сказал: «Я корреспондент из «Віцебскага рабочага». Держал он возле гостиницы «Москва» плакат, на котором было написано: «Трудовая Беларусь с вами». Интересно, какая же это трудовая Беларусь его уполномочила на такой подвиг? Тем более, корреспондента? Потом мне разъяснили уже в Витебске, что до недавнего времени этот человек работал заведующим отделом Октябрьского райкома партии. Значит, карьера у него не состоялась. Обиделся.

Пометил я было в своем блокноте кое-какие детали из «Народного вече», пионерские выкрики Сажи Умулатовой, Саши Невзорова, заявления некоего Гунько, Макашова. А когда ехал домой в поезде, то подумал: «На кой ляд мне все это надо было?». Сам господин Жириновский, выехавший на Манежную площадь на грузовике, ткнул пальцем в сторону толпы с кумачевыми флагами и сказал: «Они там занимаются политическим онанизмом!».

Конечно же, онанизм — это личное дело. Жаль только мне потраченного времени и денег на проезд в нашу бывшую столицу.

Чем дальше от нас будет уходить в небытие наше коммунистическое прошлое, тем страшнее оно будет нам казаться.

Коммунизм так и остался призраком. Побродил он по Европе, но оставил кровавые следы.

Комедианты, собравшиеся было на Манежной площади и при свечах в Подольске — не призраки, они наши современники. Глупее их затеи, на которую они решились, конечно, не придумаешь. Так может и не будем осуждать глупых. Наоборот, поблагодарим, что напомнили о себе, а заодно и том времени, которое уже никогда не вернется, как бы этого ни хотелось Саше Невзорову со товарищи.

**С. СКОСЫРСКИЙ,**
**пенсионер.**
г. Витебск.

# Калісьці я быў рабкорам «ВР»...

Дзень добры, шаноўныя спадары! У абласной «незалежнай масавай» газеце «Віцебскі рабочы» за 31 сакавіка надрукаван артыкул «Гісторыю твораць людзі», аўтар спадар А. Шыловіч. У гэтай публікацыі дана інфармацыя аб УІ надзвычайным з'ездзе народных дэпутатаў СССР. Прабачце, а што такое СССР? Я не ведаю больш такой дзяржавы. Як я зразумеў, невялікая група прыхільнікаў камуністычных ідэй, якую адхінулі ад кармушкі, жадае ўнесці раскол у наша грамадства, а карацей, усе прамовы аб адраджэнні былога Саюза я лічу ні чым іншым, як попытам да распальвання грамадзянскай вайны.

Мне вельмі шкада, што я падпісаўся на «ВР», у мінулым годзе гэта была больш аб'ектыўная газета, а зараз гэта камуністычны лісток, які камуфліруецца як незалежны. Ці не прасцей было б супрацоўнікам «ВР» змяніць словы «абласная незалежная масавая газета» на «орган прыхільнікаў спыненай КПБ—КПСС». На гэты конт я звяртаўся да спадара У. Р. Скапы, але той нават не ўдастоіў мяне адказам. Калісьці я быў рабкорам «ВР», але зараз мне сорамна за гэта.

Я лічу, што газета палітычнага напрамку, а асабліва незалежная масавая, павінна адлюстроўваць усе кропкі гледжання, а таму прапаную грамадзянам Віцебшчыны адмовіцца ад падтрымкі «ВР», пераадрасаваць гэтае выданне прыхільнікам «светлага будучага», да якога нас больш за сем дзесяцігоддзяў вялі камуністы.

З павагай **А. А. ШТАЛЬ,**
**член АДПБ.**

## Надзеі на зямлю

Меркаванне, што калгаснікі не будуць браць зямлю ў асабістае карыстанне, аказалася памылковым. Напрыклад, у Лепельскі Савет ад калгаснікаў калгаса імя Чапаева, рабочых саўгаса «Лепельскі» паступіла больш 200 заяў з просьбай выдзеліць гектар і болей зямлі. У цэлым па сельсавету для іх ужо адведзена 199 гектараў. Акрамя таго, 19 гектараў выдзелена гараджанам пад дачныя ўчасткі. Бачна, з зямлёй многія звязваюць свае надзеі выжыць у эканамічна нестабільны час.

*В записную книжку активиста витебского коммунистического подполья.*

Выписка из протокола № 176 заседания Политбюро ЦК КПСС от 10 января 1990 г. Вопрос международного отдела ЦК КПСС.

1. Оказать финансовую помощь в 1990 году за счет средств Международного фонда помощи левым рабочим организациям (...) компартии Португалии — 1 миллион, КП Греции — 900 тысяч, КП Израиля — 800 тысяч, КП Чили — 700 тысяч, КП Индии и Ливана — по 500 тысяч, КП Венесуэлы, Аргентины, Сальвадора — по 450 тысяч, КП Бразилии и Колумбии — по 400 тысяч, КП Уругвая и Ирака — по 350 тысяч, КП Перу, Испании и Партии трудового народа Кипра — по 300 тысяч, КП Норвегии и Рабочей партии коммунисты Швеции — по 275 тысяч, КП Люксембурга — 270 тысяч, КП Эквадора, Боливии и Швейцарской партии труда — по 250 тысяч, КП Египта — 230 тысяч, КП Канады и Народной партии Панамы — по 200 тысяч, КП Сирии — 175 тысяч, Доминиканской КП и Объединенной партии Гаитянских коммунистов — по 150 тысяч, партии прогресса и социализма Марокко — 140 тысяч, КП Парагвая, Шри-Ланки, (...), Гондураса, Соцпартии Чили, Партии Народный авангард Коста-Рики, партии Костариканского народа, Гватемальской партии труда, Африканскому национальному конгрессу Южной Африки, Южно-Африканской КП — по 100 тысяч, КП Бангладеш и партии Социалистический авангард Алжира — по 80 тысяч, КП Туниса и Палестины — по 75 тысяч, Национальной прогрессивной (левой) партии Египта и партии Независимости и труда Сенегала — по 70 тысяч, Национальной прогрессивной партии Гайаны — 60 тысяч, КП Ирландии, Рабочей партии Ямайки, Рабочей партии Ирландии, национальной народной партии Бангладеш — по 50 тысяч, Санмаринской КП и партии Социалистического единства Новой Зеландии — по 45 тысяч, КП Мальты — 40 тысяч, Демократической лиге — движению «За партию труда Сенегала» и коллективному органу печати компартий арабских стран журналу «Ан-Нахдж» — по 30 тысяч, КП Саудовской Аравии — 20 тысяч, КП Непала, Лесото и партии Авангард сомалийского народа — по 10 тысяч долларов.

2. Передачу средств поручить КГБ СССР.



